№ 12 [39] СЬНЕЖАНЬ 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# Ля Бэтлеемскіх Ясьляў



Паводля адвечнага парадку штогод з найбольшаю дакладнасьцю чаргуюцца поры году. І гэты парадак мы дакладна ведаем, што за сытнаю восеньню ідзе сьцюдзённая зіма; за зімою прыйдзе красная вясна, а за ёю — гарачае лета. Кожны добра ведае аб гэтым, але заўсёды чакае іхняга прыходу, як нечага новага, бо кожная з гэтых пораў году прыносіць для чалавека своеасаблівыя дарункі і мае асаблівы чар. Толькі нябошчыкі не чакаюць, ані вясны, ані лета.

Падобна і ў рэлігійным жыцьці. Год у год чаргуюцца царкоўныя сьвяты і ўрачыстасьці, але мы заўсёды чакаем прыходу гэтых сьвятаў з тымбольшым нецярпеньнем, чым большае сьвята надыходзіць, бо кожнае з іх нясе для нашае душы нейкую своеасаблівую пацеху. І толькі тыя не чакаюць сьвятаў, у каго зусім замерла духовае жыцьцё, хто стаўся духовым нябожчыкам.

Сьвята Нараджэньня Ісуса Хрыста ёсьць адным з найбольшых хрысьціянскіх сьвятаў. Яно займае першае мейсца пасьля Вялікадня. Таму зусім зразумелае тое сьвятое нецярпеньне, з якім чакаюць яго прыходу і яно вельмі дарагое кожнай хрысьціянскай душы.

Нараджэньне І с у с а Хрыста ўсё неба суправаджала радасным сьпевам ангелаў: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі», голасна лунала над Бэтлеемам, бо-ж гэта быў час, калі прыходзіў з неба на зямлю доўгачаканы Збаўца сьвету. Але тады, у першую Калядную ноч, мала хто з людзей ведаў аб нараджэньні Хрыста. Міналі цэлыя дзясяткі гадоў і нават тыя, што бачылі нованароджанага Збаўцу, быццам забыліся аб гэтай падзеі і толькі потым, пасьля сьмерці Хрыста, штораз шырэйшыя кругі людзтва даведвалі-

**Усім чытачом Рэдакцыя жадае вясёлых Сьвят і шчасьлівага Новага Году**

ся аб гэтай падзеі; і ўжо даўно вестка аб ёй разыйшлася ў найдалейшыя куткі зямное кулі.

У першую калядную ноч толькі бэтлеемскія пастухі прыйшлі аддаць паклон нованароджанаму Збаўцу. За імі праз нейкі час прыйшлі ўсходнія мудрацы, каб ушанаваць Хрыста. Але сьледам за імі назіркам ішлі ірадавы каты, каб угробіць Нованароджанага. Палілася нявінная кроў бэтлеемскіх дзяцей і ўсё быццам прыціхла. Толькі потым накіраваліся да Хрыста нязьлічаныя грамады людзей, але ня ўсе яны йшлі сьледам за бэтлеемскімі пастухамі і ўсходнімі мудрацамі. Было, і сёньня ёсьць, нямала такіх, якія падкрадаюцца да Хрыста сьледам за ірадавымі катамі з акрываўленым мячом. Але найбольш было такіх, якія йдучы да Хрыста, ня думалі аб тым, што Ён ёсьць Збаўца сьвету, што трэба слухаць Ягоную навуку. Не, яны так глыбока заняты сваімі асабістымі дробнымі справамі, што ня маюць ані часу, ані ахвоты, каб пачуць і ўспрыняць Хрыстову навуку, яны адразу зьвяртаюцца да Яго з дамаганьнем: «Хрысьце, я хочу, каб мне ўсе служылі; Хрысьце я хочу, каб ня мець найменшага цярпеньня; Хрысьце, я хочу быць багатым і каб мяне ніхто ня турбаваў; Хрысьце, зрабі, каб усе выконвалі маю волю»... Вось у чым трагэдыя людзтва, што нават ад Бога жадаюць людзі, каб Ён выконваў іхнюю волю і зусім пускаюць міма вушэй і міма розуму адну з асноўных праўдаў хрысьціянства, якую, дарэчы, штодзень паўтараем у Господняй малітве: «Будзь воля Твая!»

Пэўна-ж на тое і ёсьць Бог Богам, а людзі людзьмі, каб прасілі ў Яго ўсё патрэбнае для жыцьця. Але ўсё непаразуменьне палягае ў тым, што замест прасіць таго, чаго сапраўды патрабуе наша душа, што вечнае і нязьнішчальнае і што дае чалавеку вечнае шчасьце, або прынамся вядзе да яго, дык просяць таго, што прамінаючае, а тым самым і бязвартаснае для душы. У гэтым адзін з паважных кораняў усіх расчараваньняў у жыцьці. Людзі часта баяцца глянуць на жыцьцё ў ягоным сапраўдным абліччы і з большаю ахвотаю ўяўляюць сабе фантастычнае зямное жыцьцё. Быццам яго магчыма наладзіць так, каб мець толькі самыя кветкі бяз ніякіх церняў, дзе магчымыя самыя прыемнасьці бяз ніякіх цярпеньняў і боляў. Ніхто яшчэ гэткага жыцьця на зямлі ня меў, і сам Хрыстос усім сваім жыцьцём даў прыклад, што жыцьцё на зямлі немагчымае без цярпеньня і ахвяры. Бо-ж сам сэнс зямнога жыцьця чалавека ёсьць: падрыхтавацца да вечнага жыцьця ў небе. Нельга забывацца аб тым, што Хрыстос прыходзіў з неба на зямлю, але не на тое, каб астацца тут вечна, толькі на тое, каб зноў вярнуцца ў неба і нас забраць туды да Сябе.

Зямны шлях Хрыста йшоў праз цярпеньні, бяду, зьнявагі і мукі пачынаючы ад бэтлеемскага жолаба і канчаючы галгофскім крыжам. Некаторыя мастакі вельмі трапна прадстаўляюць гэтую праўду, малюючы крыж над ясьлямі, каб паказаць, што ад бэтлеемскіх ясьляў да Галгофты пуцяводнаю зоркаю быў сьвяты Крыж. І гэта ёсьць адзіны шлях збаўленьня.

І перад Хрыстом, і пасьля Хрыста было шмат розных «правадыроў» і «настаўнікаў», якія абвяшчалі сьвету розныя павабныя спосабы шчасьлівага жыцьця, зямнога раю. Але заўсёды было так, што іхныя абяцаньні ня спраўджваліся і чым далей людзі ўцякалі ад Хрыстовае навукі, дык траплялі ў тымбольшыя цярпеньні і большыя мукі. У часе Сьвят заўсёды даецца магчымасьць крыху ўважней задумацца над гэтым пытаньнем і зрабіць з яго адпаведныя высноўкі, перанёсшыся думкаю ў апушчаны хлеў каля Бэтлеему, дзе ў бедных ясьлях Прэсьвятая Дзева Марыя палажыла нованароджанага Хрыста.

Людзі аплываючыя ў дастаткі і дабрабыт цяжка падатныя для ўспрыняцьця навукі Хрыста аб цярпеньні і ахвярах. Яны калі сьвяткуюць Раство, дык за сытным сталом зусім непадобным да бэтлеемскіх ясьляў, дзе нельга ўбачыць крыж Хрыста. Пэўна-ж гэта не агульнае зьявішча, але вельмі частае. Мы-ж, эміграцыя, у бальшыні выпадкаў пазбаўленыя ня толькі дабрабыту, але агулам маем вельмі няпэўнае існаваньне, дык выкарыстайма гэтае палажэньне, каб уцяміць, што шлях да шчасьця і лепшае долі вядзе праз цярпеньні і ахвяры, ды каб навучыцца бясстрашна йсьці гэтым шляхам.

**а. Леў.**

# ДАТА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА

Сучаснае гадалічэньне, прынятае амаль ува ўсіх краінах сьвету, афіцыяльна зьвязанае з нараджэньнем Хрыста. Гэтым самым нараджэньне Хрыста прызнаецца зваротным пунктам у гісторыі сьвету, бо ўсе гістарычныя даты цяпер рахуюцца ад пачатку сьвету да Хрыста і ад Хрыста да нашых дзён і далей. Гэткае гадалічэньне запачаткавана толькі ў VI стаг. Даўней у кожнай дзяржаве было асобнае гадалічэньне, зьвязанае з нейкаю важнаю падзеяю ў жыцьці данага народу, ці дзяржавы, а найчасьцей з асобаю пануючага. Так было і ў Рымскай імпэрыі, дзе важ-

ныя дэкрэты заўсёды датаваліся годам панаваньня данага імпэратара, але для ўагульненьня гісторыі і для павязаньня падзеяў у гэтай імпэрыі лічыліся гады ад заснаваньня Рыму.

Калі-ж хрысьціянства сталася дзяржаўнаю рэлігіяю ў Рымскай імпэрыі, дык яшчэ праз пару сот гадоў у дзяржаўным жыцьці ўжывалася ранейшая сыстэма гадалічэньня, але Хрысьціянская Царква лічыла гады ад так званае эры Дзіяклiцiяна, або мучанікаў. Аднак гэтае гадалічэньне было недакладным. Гадалічэньне ад «стварэньня сьвету» было яшчэ больш недакладным, бо ў жыдоўскай, сірыйскай і грэцкай Бібліях былі паважныя разьбежнасьці ў датах. Каб унікнуць гэтых цяжкасьцяў з гадалічэньнем папа Іван І у 525 г. даручыў вучонаму манаху Дзіянізію Маламу, родам са Скітыі, каб устанавіў новае гадалічэньне, прыняўшы нараджэньне Хрыста за першы год. Пры тагачасным стане навукі гэта было нялёгкае заданьне, дык нічога дзіўнага, што Дзіянізій у сваіх аблічэньнях памыліўся прыблізна на 4 гады, прымаючы год нараджэньня Хрыста 754 (753) пасьля заснаваньня Рыму. Сучасныя аблічэньні, апіраючыся на падзеях з рымскае і жыдоўскае гісторыяў, аднагодна выказалі, што рымскі намесьнік Квірыніюс быў высланы ў Сірыю ўжо к. 745 г., а перапіс насельніцтва ў Сірыі і Палестыне ён праводзіў дзесь каля 747-749 гадоў. Ірад-жа, які выбіў бэтлеемскіх дзяцей памёр у 750 г. Адгэтуль відаць, што год нараджэньня Хрыста трэба прызнаць 749 пасьля заснаваньня Рыму. Гэткім чынам паводля сучаснага гадалічэньня, калі гаварыць дакладна, дык трэба сьцьвердзіць такую недарэчнасьць, што Хрыстос радзіўся 4 гады перад «нараджэньнем Хрыста», а гэты год, які рахуецца 1950, у сапраўднасьці ёсьць 1954 годам пасьля нараджэньня Хрыста. Аднак гэтае памылкі цяпер ніхто ня думае правіць, бо яе дакладна ведаюць і якраз яе ўважаць выхадным пунктам да сучаснага гадалічэньня, назваўшы яе Хрысьціянскаю эраю.

Калі год нараджэньня Хрыста амаль пэўна азначаны, дык дзень нараджэньня зусім немагчыма азначыць, бо гэты дзень пачалі сьвяткаваць толькі ў III веку. Для яго азначэньня ня было дасло́ўна ніякіх даных. Першы ўстанавіў дзень нараджэньня Хрыста сьв. Гіпаліт Рымскі на 25 сьнежаня, апіраючыся толькі на той думцы, што Хрыстос памёр 25 сакавіка і, паводля яго меркаваньняў, Хрыстос мусіў мець роўна 33 гады, значыць дзень нараджэньня і сьмерці мусілі супадаць. Аднак таму, што ня было ніякіх доказаў на пацьверджаньне гэтае думкі, дык іншыя айцы Царквы падавалі іншыя даты. Клімэнт Александрыйскі ўстанаўляў гэты дзень на 18, або 19 красавіка, а ў Візантыі сьвяткавалі нараджэньне Хрыста разам з хрышчэньнем і паклонам мудрацоў 6 сьнежаня, як сьвята эпіфаніі-богаяўленьня. Толькі ў V в. і на Усходзе і агулам ува усёй Хрысьціянскай Царкве прыняўся рымскі звычай сьвяткаваць нараджэньне Хрыста асобна 25 сьнежаня.

Для паўнейшае яснасьці закранёнае тэмы трэба заўважыць, што некаторыя вучоныя, апіраючыся на тым факце, што нараджэньне Хрыста суправаджалася нязвычайнымі зьявамі на небе, пробавалі аблічыць год і дзень нараджэньня Хрыста дзякуючы розным астранамічным аблічэньням. Але ўжо сам той факт, што зорка, якая зьявілася на небе падчас нараджэньня Хрыста была абумоўлена надпрыродным дзеяньнем і гэтым зьвярнула на сябе ўвагу ўсходніх мудрацоў, ці лепш кажучы зьвездароў, напярод выключае магчымасьць устанаўленьня даты нараджэньня Хрыста астранамічным спосабам. Нябесныя зьявы, якія суправаджалі нараджэньне Хрыста, былі наскрозь надпрыроднымі і не пакінулі ніякага сьледу для астраномаў.

Затое асталіся іншыя сьведчаньні, аб надзвычайных аб'яўленьнях, якія суправаджалі нараджэньне Хрыста. Амаль ува ўсім сьвеце ў розных народаў існавалі быццам об'яўленьні аб тым, што мае нарадзіцца Збаўца сьвету. Кажам «быццам аб'яўленьні», бо ўжо ў той час, калі яны трапілі ў літаратуру, дык былі так моцна зьмешаныя з рознымі лягендамі, што сёньня не заўсёды іх можна разрозьніць, дзе канчаецца аб'яўленьне і дзе пачынаюцца людзкія дадаткі. Вось некалькі такіх прыкладаў народных пераказаў папераджаючых нараджэньне Хрыста і з часоў нараджэньня аб прыхадзе на сьвет Збаўцы людзтва:

Кітайскія вучоныя чакалі «вялікага Сьвятога, Які мае прыйсьці з Захаду і прынясе рэлігію, што будзе трываць да канца сьвету». У Індыі падчас ахвяраваньняў аднаго з лямаў кожны раз крычалі: «Калі нарадзіцца Збаўца?» Гэрманскія пляменьні ў аднэй з нардыйскіх загаў сьпявалі аб Тым, што «мае прыйсьці на сьвет і будзе большы за Одона». У Бабілёніі існаваў аракул аб «вялікім Валадару, Які паўстане на Захадзе і будзе валадарыць паводля праўды і справядлівасьці, міру і радасьці». У Ягіпце верылі ў аднаўленае ўпадкаваньне рэчаў пасьля сканчэньня вялікага сьветавога году. У Рыме ў самую ноч нараджэньня Хрыста, якаясь легэндарная Сібільля мела прарочыць, што «на версе рымскага Капітолю будуць маліцца нябеснаму Богу і кланяцца праўдзіваму Богу, а ня ідалам». У некаторых паўдзённаамэрыканскіх пляменьняў існавалі пераказы, што да іх маюць зьявіцца «бязжэнныя людзі, якія прынясуць навуку аб праўдзівым Богу» і гэтыя пераказы былі вялікай палёгкаю ў хрысьціянізацыйнай працы першых місіянароў. Усе гэтыя і падобныя пераказы дайшлі да нас часам вельмі перакручаныя, але гэта якраз тлумачыцца тым, што яны маюць вельмі старое паходжаньне, але іхняй першай крыніцай не магло быць нічога іншага, як аб'яўленьне.

**Л. Строк.**

# КІНО

## ЯГО ДОБРЫЯ І ДРЭННЫЯ ЎПЛЫВЫ.

(Працяг. Пачат. глядзі Нр. 35-36).

### Ёсьць ліхое і тут.

Фільм ёсьць дапаможнікам для школы і навукі, ён узгадоўвае і радуе, як разрыўка. Наша эпоха азначаецца дынамізмам, хватаньнем хвіліны, хуткім палагоджваньнем справаў. Усё, што павольнае, што трывае доўга і нязьменна, нас нудзіць. Усьцяж шукаем новага. Таму кінотэатры так папулярныя, бо там можна бачыць падзеі ў прысьпешаным тэмпе. Істотнаю азнакаю кіна ёсьць рух абразоў; музыка, гутарка і сьпевы ёсьць толькі дапаможнымі дзейнікамі. А рух, як было заўважана раней, ёсьць знакам часу. Фільм, як нехта казаў, ёсьць тэатрам двадцатага стагодзьдзя, з тою розьніцаю, што ён даступны масам, выгадны і найтаньнейшы з разрывак; прыцягвае сваею актуальнасьцю.

Трудна было-б знайсьці даволі слоў для належнай пахвалы гэтак прынаднага вынаходу, якім ёсьць кіно, каб ня тое сумнае зьявішча, што і тут нячысьцік улез з сваім капытом. Перш аднак чым усё звальваць на цёмныя сілы, трэба сьцьвердзіць, што чалавек па сваёй слабасьці і злосьці ёсьць майстрам у надужываньні і прафанаваньні найвялікшых сьвятасьцяў. Для нас кіно ня ёсьць нечым ліхім самым у сабе, але надужыцьцё спалучанае з ім дае страшэнныя вынікі. Не дарма Марцэль Рэнсі пісаў у «Жэнэўскім Кур'еры»: «Гуляецца з лёсам чалавека на працягу ўсіх гадзін дня і ночы ў паўцені саляў, куды зыходзяцца масы, каб успрыняць абразы, якія пасьля сьведама, ці нясьведама будуць уводзіць у жыцьцё».

### Патрэбны добрыя фільмы.

Для нікога ня ёсьць сакрэтам, што ў бальшыні выпадкаў кінематографічная прадукцыя зводзіцца да паказу сцэнаў распальваючых змысловасьць, як: доўгія і палкія цалункі, абыймы, балёвая куртатая вопратка, або і зусім нудызм. Да гэтага даходзіць вялікі процант крымінальных і паліцыйных драмаў, дзе нярэдка злачынства падносіцца на ступень гэройства, а ўся акцыя ёсьць школай злачынаў і немаральнасьці. У 1940 г. урадавая цэнзура штату Нью Ёрк на агульны лік 507 фільмовых плёнкаў не дапусьціла да поўнага высьвятленьня 111, якія ў суме атрымалі 926 ампутацыяў, дзеля таго, што паказвалі бессаромныя сцэны (501 выпадак), акты праступства (245), і жарстокасьці.

Небясьпекі і нястачы кіна вынікаюць з ягонае натуры. Дзеля свае істотнае азнакі — рухавасьці, кіно вельмі дзейнічае на пачуцьці, не дае часу для разважаньня і агулам для працы розуму, глядзельніка робіць пасыўным і павярхоўным. Душа паволі і нясьведама, часам нават супраць сваіх пераканаўньняў, прывыкае і пасьля пагаджаецца з усім тым, што фільм ёй накідае. А робіць ён гэта няўпрыцям, зманліва, лёгка і подступна. Кіно можа быць прыслужным для асьветы, культуры, рэлігіі і ўзгадаваньня, але ў залежнасьці ад фільму можа так-жа выконваць ганебную ролю забойцы праўдзівага поступу, добрага ўзгадаваньня і рэлігійнага жыцьця.

### Небясьпека для дзяцей.

Часта можна бачыць у кіне матак з дзяцьмі на руках. Які-б там фільм ня круцілі, матка мае адказ: «Яно малое, дурное, нічога не разумее!»

Гэтак думаць ёсьць вялікай памылкай, а часам нават злочынам. Над дзьвярыма аднэй з рымскіх клінікаў ёсьць напіс: «In puero homo». Гэты сказ можна ператлумачыць: «Якое дзіця, такі і дарослы!» Калі ад калыскі даецца дзіцяці нездаровая страва, дык чаго можна спадзявацца ад дарослага?!

Дзіця да ўсяго прыглядаецца, усім цікавіцца. Вось што кажа доктар Інцітарі аб дзіцяці: «Для тых, якія займаюцца злачынствам дзяцей, ёсьць ведамым, што некаторыя злочыны былі зроблены хлапцамі пад уплывам дрэнных фільмаў, а часам зусім пад-сугэстыяй кінематографічных высьвятленьняў і то беспасрэдна пасьля паказу, быццам у сугэстыўнай гіпнозе». Далей д-р Інцітарі сьцьвярджае: «Сумныя фільмы аслабляюць нэрвы хлапца, наводзячы сум на ягоную душу хоцьбы дзеля таго, што ставяць перад ім праблемы, якія перавышаюць ягоны пачуцьцёвы і разумовы ўзровень. Эротычныя фільмы, калі кепска зразумелыя і праведзеныя, пабуджаюць у ім перадчасна пачуцьцёвыя інстынкты, выклікаюць забурэньні, а часта шкодныя здаваленьні і самагвалт; крымінальныя фільмы могуць абудзіць у душы нахілы да злога і збурыць у ёй дарагія пачуцьці грамадзкага ладу, прышчэпленыя індывідуальным і грамадзкім узгадаваньнем». Праф. Д'Абдундо сьцьвярджае, што ў многіх глядзельнікаў фільмаў у веку ад 7 да 12 гадоў зьяўляюцца нэрвовыя закалоты, спалучаныя з начнымі сполахамі і галюцынацыямі.

Дык няма нічога дзіўнага, што Сьвяцейшы Айцец Пій XI у энцыкліцы прысьвечанай кінофатаграфіі ў 1936 г. пісаў так: «Прынаднасьць кіна выяўляецца асабліва ў адносінах да моладзі, да падросткаў, а нават да дзяцей. І акурат у той век, калі разьвіваюцца паняцьці і пачуцьці спра-

вядлівасьці, слушнасьці, абавязковасьці ды ідэалаў жыцьця — кіно са сваёю моцнаю прапагандаю займае рашаючую пазіцыю. Нажаль так, як дагэтуль было, яно найчасьцей мела дрэнны ўплыў. Калі падумаем аб толькі зруйнаваных маладых душах юнакоў і нялетніх, аб толькі нявінных, якія гінуць акурат у салях кіноматографаў, прыходзіць на памяць страшнае праклянцьце Госпада сказанае пад адрасам зводнікаў моладзі: «Хто зьвядзе аднаго з гэтых малых, веручых у Мяне, таму ляпей было-б, каб яму павесілі на шыю жарновы камень і каб кінулі яго ў мора» (Марко IX, 42).

### Крыху лікаў і фактаў.

Каб ня быць галаслоўным, варта падаць крыху лікаў і фактаў фатальнага ўплыву кіна на моладзь.

Адзін італьянскі сьвятар, настаўнік рэлігіі ў гімназіі, пастанавіў даведацца, як часта яго вучні і вучаніцы хадзілі ў кіно на працягу апошніх 39 дзён. На запытаньні сьвятара адказала 299 вучняў. З адказаў выявілася, што з іх 271 былі на працягу тых дзён 1679 разоў у кіно на 54 розных высьвятленьнях. Два вучні былі 18 разоў, тры 24 і г. д. Што яны бачылі ў кіне? А вось што: 914 бойкаў, 360 паказаў п'яных сцэнаў, 165 рабункаў, 120 чужалостваў, 224 забойствы, 645 разбояў, 179 зладзействаў, 171 пажараў, 65 самагубстваў. І сярод гэтага ўсяго вельма мала чаго добрага.

Падобна іншы дырэктар гімназіі зрабіў статыстыку сваіх вучняў, якія ходзяць у кіно і ў канчатковым выніку заявіў: «У кіно ходзяць 100 на 100! Нажаль ідуць блізу ўсе, каб бачыць усё».

Газэтная хроніка падае нямала матэрыялу аб ліхім уплыве кіно на моладзь, а што яшчэ ёсьць сумнейшым, дык гэта тое, што ў паважных салёнах судоў штораз больш зьяўляецца справаў, якімі займаюцца судзьдзі, а якія былі зроблены пад уплывам кіно.

А Умэрыцы, дзе найбольшая прадукцыя фільмаў, шмат хто з моладзі, трапіўшы ў турму, заяўляў, што першым штуршком да праступства было кіно.

Не астаецца ад Амэрыкі наша Эўропа. Статыстыкі Англіі паказваюць, што лік злачынцаў у веку ніжэй 17 гадоў усьцяж узрастае. Калі ў 1934 г. было іх 20.540, дык у 1936 г. павялічылася да 27.126. Паводля паліцыйных дадзеных у Бірмінгаме 29% усіх злачынстваў было зроблена непаўнагоднімі. У саліднай ангельскай газэце «Таймс» чытаем вось такое здарэньне: Хлапчук прабуе абакрасьці дом, але яго ловіць на гарачым учынку ягоны стрэчны брат, амаль равесьнік. Хапае яго, прывязвае да ложка і прабівае кухонным нажом — словам, якраз так, як нядаўна бачыў у кіне. Уцякаючы з хаты, пакідае ліст бацьку, ў якім стараецца апраўдацца якраз у гэткі самы спосаб, як ён бачыў на экране ў кіне.

У Францыі некалькі гадоў таму назад паліцыя арыштавала 12 хлапчукоў у веку ад 8 да 12 гадоў, якія былі стварылі банду з мэтаю, каб спаборнічаць з амэрыканскімі ґанґстэрамі.

Матушка, малады мадзярскі злачынец, адказвае перад судом за катастрофу цягніка, у якой згінула 20 асобаў. Спрычыніў яе цынічна ў тэатральнай вопратцы. Калі яго спыталі, што гэта за вопратка, дык адказаў: «Вопратка змоўніка». — «А ты адкуль ведаеш, што гэткую вопратку носяць тыя, што робяць атэнтаты?» — «Я бачыў такую вопратку ў кіне», — пачуўся ўпэўнены адказ.

Падобных фактаў, дакумэнтальна сьцьверджаных, можна падаць шмат больш і з усіх краінаў. Трэба аднак заўважыць, што ліхі ўплыў фільму не адразу праяўляецца ў злачынны спосаб. Найчасьцей ён дзейнічае, як атрута: паволі руйнуе душу, чым далей, тым горай. Тут паданыя прыклады аб злачынным дзеяньні кіно на хлапцоў, але ня інакш стаіць справа і з дзяўчатамі. Магчыма нават горш, бо іхняя натура больш успрыймаючая, а тэмпэрамэнт на ўсё рэагуе хутчэй, рэфлексы-ж слабейшыя, чым у хлапцоў.

Дык зусім слушна заўважыў італьянскі міністар парпаганды, што фільм ёсьць ліхім узгадаваўцам.

(Працяг будзе).

**А. Дзедзінка.**

# Рэлігійныя перамены ў Кітаі

Гэты артыкул пэкінскага сьвятара а. Паўла Джоў прысьвечаны спэцыяльна беларускай эміграцыі, з якою аўтар упяршыню спаткаўся і навязаў прыязныя зьвязкі, калі сам знайшоўся на эміграцыі.

Сучасныя падзеі на Далёкім Усходзе прыцягваюць увагу ўсяго сьвету да тых краінаў, дзе яны адбываюцца. Да нядаўна цэнтрам увагі была Карэя, а цяпер у тэй-жа Карэі цэнтрам увагі сталіся кітайцы, а праз гэта і сам Кітай.

Кітайцы — гэта адзін з найбольшых і найстарэйшых народаў сьвету. Сёньня кітайцаў нараxоўваецца 460 мільёнаў. Гісторыя Кітаю сягае да 3000 гадоў перад Хрыста. Але да нядаўна Кітай быў адзьдзелены ад рэшты сьвету вялікім мурам і ў даслоўным і ў пераносным значэньні гэтага слова, дзеля гэтага быў мала ведамы ў Эўропе і адначасна Эўропа была мала ведамая ў Кітаі.

Найстарэйшая рэлігія кітайскага народу пры-





Вялікі кітайскі мур даўжынёю 2.500 кілямэтраў. Цяпер яго камуністычныя ўлады разбураюць, пад прэтэкстам здабыцьця будаўлянага матэрыялу для адбудовы краю, а ў сапраўднасьці, каб зьнішчыць матэрыяльныя і культурныя межы Кітаю.



знавала аднаго Бога, Які аднак меў розныя назовы, што часта прычынялася да зацямненьня адзінабожжа ў вачох неабазнаных дасьледнікаў Кітаю. Побач Бога, найчасьцей пад назовам Неба, паважнае мейсца ў першапачаткай рэлігіі займаў культ валадара які афіцыяльна называўся Сынам Неба. Далей немалое мейсца займаў культ продкаў. Да гэтага потым дамяшаліся розныя забабоны і далі пачатак шматлікім лягэндам.

Гэтая рэлігія паручала сваім вернікам пяць асноўных цнотаў: дабрадзейнасьць, справядлівасьць, ветлівасьць, мудрасьць і вернасьць. Усе гэтыя цноты мусілі практыкавацца ўва ўсіх грамадзкіх суадносінах, якіх так-жа нарахоўвалася пяць: між валадаром і падданымі, між мужам і жонкаю, між бацькам і сынамі, між старэйшым і малодшымі братамі і ўканцы між сябрамі.

Гэтыя цноты так прасяклі ў душу кітайскага народу што калі потым у 5 веку да Хрыста кітайскі філязоф Конфунцый (551-479) укладаў сваю філязафічна-маральную сыстэму, дык жыўцом уключыў гэтую маральную навуку ў сваю сыстэму, якая пад назовам конфунцыянізму доўгі час займала мейсца рэлігіі і яшчэ цяпер мае паважны лік вернікаў.

Сучасьнік і нават часткова настаўнік Конфунцыя філязоф Ляо-Цзы даў пачатак іншай рэлігійна-маральнай сыстэме, якая ў адмену ад конфунцыянізму мела больш містычны характар і потым сталася так-жа рэлігійнаю сыстэмаю пад назовам таоізму, уключаючы ў сябе цэлую кучу розных легэндарных бажкоў, багіняў і багавіцаў.



**Буддыйскі ідал-музыкант.**

У першым веку перад Хрыстом пачаў пранікаць з суседняе Індыі ў Кітай буддызм. Гэта быў першы ўплыў замежнае культуры на кітайскі народ. Асновапаложнікам буддызму быў сын аднаго з індыйскіх князёў Сакія, які потым сам сябе назваў Буддаю, гэта знач. прасьвечаным. (Ён памёр к. 480 г. перад Хрыстом). Будда навучаў, што ўсё цярпеньне на сьвеце паходзіць з жаданьняў чалавека. Дзеля гэтага мэтаю жыцьця чалавека на зямлі павінна быць: вызваліцца ад усіх жаданьняў, тады можна будзе па сьмерці трапіць у нірванну — стан поўнага зьнячуленьня. Калі-ж хто ня вызваліцца ад жаданьняў, дык ягоная душа па сьмерці трапляе на нейкі час у пекла каб потым адтуль зноў уцелавіцца ў нейкую жывую істоту (рэінкарнацыя душ).

Зчасам у буддызьме зьявілася некалькі розных плыняў і сэктаў. Да таго пранікаючы ў Кітай, буддызм усякваў у сябе шмат элемэнтаў чыста кітайскіх гэта часткава прыкрывала ягонае замежнае пахожданьне і ўмагчымлівала выціснуць конфунцыянізм і таоізм, заняць іхняе мейсца, ды стацца трэцяю і найбольш распаўсюджанаю рэлігіяю кітайскага народу. Прыняцьце буддызму ў Кітаю адбывалася некалькімі наваротамі. Асабліва інтэнзыўна пашырыўся буддызм у Кітаю за часоў імпэратара Тсін. У 405 г. афіцыяльна паведамлялася, што на 100 кітайцаў 9 ёсьць буддысты.

Першымі пашыральнікамі буддызму ў Кітаю былі індыйскія буддыйскія манахі, а потым іхняе мейсца занялі кітайскія манахі. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць Фу Хіен († 414) і Хіюан Цонг (604-653), якія даўжэйшы час жылі ў Індыі і вяртаючыся ў Кітай прынесьлі з сабою шмат буддыйскіх кнігаў, ператалумачаных на кітайскую мову.

Буддызм параўнаўча лёгка заваяваў сабе мейсца ў Кітаю, бо ён нёс з сабою сякія такія адказы на загробнае жыцьцё, аб якім нічога ня ўмеў сказаць конфунцыянізм, і стаяў шмат вышэй за таоізм з ягонымі незьлічанымі бажкамі і featuresрознымі магічнымі штукамі.

У VIII в. буддызм перажываў свой найбольшы росквіт у Кітаю. Аб гэтым могуць сьведчыць лікі. У сталіцы ў 768 г. прымалі зараз у буддыйскія манастыры па тысячы чалавек у навіцыят. Нават у параўнаўча невялікіх гарадох было па некалькі дзясяткаў манастыроў і пагодаў, напр.: у Чанг Нон было: 64 мужчынскіх і 27 жаночых буддыйскіх манастыроў.

Розныя буддыйскія школы і сэкты няраз увайходзілі ў доўгія спрэчкі між сабою, у выніку якіх паўставалі тысячы кнігаў палемічна-рэлігійнага зьместу. Акрамя літаратуры буддызм прынёс з сабою паважны штуршок для развою кітайскага мастацтва, бо ў зьвязку з ім паўстала цэлы рад




**Адна з вуліцаў у Пэкіне.**

выдатных помнікаў, як: погоды, вежы, статуі ідалаў і пад.

Аднак буддызм ня мог на доўгі час заспакоіць і здаволіць духовых жаданьняў кітайцаў. Бяскрытычная мэтафізыка буддызму ня ўстоялася перад практычным кітайскім розумам, дзеля гэтага хутка пасьля свайго росквіту буддызм пачаў у Кітаю занепадаць. Да гэтага так-жа шмат прычыніліся паводзіны буддыйскіх духоўных-бонзаў. Так што самае слова бонза сталася да пэўнае ступені абразьлівым. (Падобна, як у нас поп. Увага перакладчыка).

І хоць яшчэ перад другою сусьветнаю вайною на запытаньне: якое вы рэлігіі, аграмадная большасьць кітайцаў адказвала: буддыйскае, дык у сапраўднасьці ад буддызму ў Кітаю астаўся толькі высахшы пень. Погоды сьвецяць пусткамі. Гэтую паражнечу ўсімі сіламі стараюцца выкарыстаць камуністы.

У гэткім палажэньні напрошваецца пытаньне: што цяпер зойме мейсца пасьля буддызму? Паважны колькасны ўзрост каталіцызму ў Кітаю за апошнія 50 гадоў дае падставу думаць, што для яго ў Кітаю ёсьць асаблівая будучыня.

Пачаткі хрысьціянства ў Кітаю некаторыя дасьледнікі прабуюць зьвязваць з асобаю ап. Тамаша, які меў адведаць Кітай, прышоўшы сюды з Індыі. Але гэтая лягэнда ня мае ніякіх доказаў, ані сьлядоў. Першыя гістарычныя весткі аб хрысьціянстве ў Кітаю паходзяць з VII в. Тады ў Кітай прыйшлі нэсторыяне. Кітайцы прынялі іх у 635 г. даволі прыхільна і хутка амаль у кожнай прэфэктуры былі нэсторыянскія сьвятыні. Але гэткі стан трываў нядоўга. У 845 г. імпэратар забараніў нэсторыянства, як чужую рэлігію і ад гэтага часу нэсторыяне зьніклі ў Кітаю. У Монголіі нэсторыянства зьнікла некалькі стагодьздзяў пазьней.

Пасьля гэтага толькі ў XIII в. хрысьціяне зноў зьявіліся ў Кітаю — гэтым разам каталікі. Перш каталіцкія місіянары спаткаліся з монголамі. Шырокаведамая ў гісторыі місія пасланьніка папы Інокенція IV францішканскага манаха а. Пляно дэ Карпіні да монгольскага хана. Першы каталіцкі сьвятар, які прыехаў у Пэкін у 1294 г. быў а. Іван дэ Монтэкорво. Ён меў паводзіны ў сваёй місійнай працы і ўжо ў 1307 г. аснаваў у Пэкіне



**Блажэнны Іван Пэрбуар (1802 - 1840) місіянэр айцоў Лязарыстаў замучаны ў Кітаі.**



**Найсьв. Дзева Марыя з ангеламі ў кітайскім стылю.**

архібіскупства. Аднак далёкая і цяжкая дарога з Эўропы ў Кітай унемагчымлівала высылку большае колькасьці місіянароў.

Толькі пасьля адкрыцьця марскога шляху з Эўропы ў Кітай, прыехаў гэтым шляхам у 1579 г. а. Мацей Річчі езуіт. За ім зьявіліся іншыя айцы,

якія сваею навуковаю і рэлігійнаю працаю здабылі давер ураду і народу. За езуітамі прыйшлі іншыя каталіцкія манахі: дамінікане, лазарысты, францішкане і інш., але некаторыя з іх аднесьліся няпрыхільна да сыстэмы місійнае працы езуітаў і дабіліся ў Рыме асуджаньня так званага «кітайскага абраду», уведзенага езуітамі. Але гэтае асуджаньне выклікала з боку кітайскага ўраду незадаваленьне і нават прасьлед. Час ад часу гэты прасьлед прымаў вострыя формы, асабліва калі ў справу місіяў мяшаліся розныя вонкавацаркоўныя, палітычныя і каляніяльныя справы.



**Дзеравянная вежа з правінцыі Пэкіну, каля якое ў 1938 г. японцы змасакравалі 9 катал. духоўных.**

Тады нязраз ахвяраю падалі нявінныя місіянары, якія выконваючы свае рэлігійныя абавязкі, аддавалі сваё жыцьцё за каталіцкую веру. Але ніякія ахвяры не адстрашвалі місіянароў. Яны паволі знайходзілі выхад з цяжкасьцяў, дзеля гэтага лік каталікоў у Кітаю хоць паволі, але ўсьцяж узраставў.

Вялікі ўзрост вернікаў адбыўся за апошнія 50 гадоў. За гэты час лік каталікоў у Кітаю павялічыўся ў 5 разоў і сёньня перавышае 4 мільёны. Вельмі важнаю датаю ў гісторыі Каталіцкае Царквы ў Кітаю ёсьць 1946 год. У гэтым годзе 18 лютага атрымаў кардынальскую годнасьць першы кітаец Яго Эмін. Тамаш Тіен Кэн-сін, а 11-IV устаноўлена новы адміністрацыйны падзел. Увесь Кітай падзелена на 20 мітраполіяў з 79 біскупствамі і ўстаноўлена 38 апостальскіх прэфэктураў. Паміж нававысьвячанымі біскупамі большасьць становяць кітайцы.

Праўда, сучасная камуністычная ўлада ў Кітаі ўважае Каталіцкую Царкву за ворога Нр. 1 і робіць усякія перашкоды ў разьвіцьці каталіцызму, але з гэтага гледзішча Кітай не становіць вынятку; ён падзяляе долю ўсіх краінаў паняволеных камунізмам. Сумнае гэта зьявішча, але яно родзіць надзею, што Кітай будзе так-жа ўдзельнікам у разросьце каталіцкіх творчых сілаў пасьля перамогі над бязбожным камунізмам.

**а. Павал Джоў.**

---

# ДОКТАР МОЛІЦЦА ПЕРАД ЛОЖКАМ

Ува усім доме сьледная палахлівая турбота. Маладая цяжарная жанчына ляжыць у падушках. Час яе разьвязаньня ніяк ня хоча прыходзіць. Дзень мінуў. Надыходзячы вечар пазбаўляе надзеі на шчасьлівую разьвязку без дапамогі лекара. Але да найбліжэйшага мястэчка даволі далёка і дрогкія ўзгоркавыя дарогі ахінутыя ўжо начною цемраю. Заклапатаны бацька пасьля немалых стараньняў на пошце атрымаў нарэшце тэлефоннае спалучэньне. Цяжкі камень зваліўся з ягонага сэрца. Доктор прыедзе; ён будзе сьпяшацца.

Нарэшце ён зьявіўся. Усе ў хаце ўздыхнулі лягчэй, бо цяпер усё павінна быць добра. Маладая парадзіха зьвяртае да яго галаву. У яе гарачым позірку страшэннае зьняверы абудзілася надзея. Лекар турбуецца каля змучанае парадзіхі. Яго аблічча вельмі паважнае. Ён мусіць дзейнічаць неадкладна і рашуча. Жыцьцё парадзіхі і дзіцяці ў вялікай небясьпецы. Хуткімі словамі ён дае неабходныя распараджэньні і неадкладна падрыхтоўваецца сам. Жанчыны, якія памагалі лекару, з ягоных хуткіх рухаў бачылі, што ён сьпяшаецца, як толькі можа. Але вось раптам яны глядзяць і вачом сваім ня вераць: доктар становіцца на абодва калені перад ложкам і складае рукі да малітвы.

Ціха стаяць жанчыны-памагатыя і дзівуюцца. Ці-ж нешта гэткае магчыма? Доктар моліцца перад ложкам. Ягоныя вочы заплюшчаныя, аблічча сьведчыць аб унутраным напяцьці і скупленьні. Мамэнт зусім нязвычайны.

Бабулька ўспамінае старое апавяданьне; адно з тых пабожных апавяданьняў, якія часам спатыкаюцца ў календарох. Там так-жа лекар маліўся ля ложка і заклікаў нябесную помач, каб успамагла ягонае лекарскае дзеяньне. Так яна сапраўды чытала калісь такое апавяданьне, будуючае апавяданьне. Але тут яна бачыць перад сабою сапраўднасьць. Тут жывы чалавек перад яе вачыма кленчыць на той падлозе, якую яна сама шаравала безьліч разоў, у сьціплай бакоўцы яе-ж простае сялянскае хаты, у звычайны лістападовы вечар і ў гэты звычайны 1949 год. Калі-б яна ня бачыла гэтага сваімі вачыма, ніколі-б не дала веры, што гэта праўда.

Калі доктар устаў, яго аблічча ўжо ня было такім строгім; яно было ясьнейшым і больш упэўненым. Ён адразу ўзяўся за дзела і ўсё закіпела ў яго руках так, што бабулька нават не магла сьледкаваць за хуткімі рухамі інструмантаў; яны толькі мігцелі перад яе вачыма. Дыханьне лекара прысьпешанае, яго карк чырванее, плечы сагнутыя. Так ідзе праца нейкі час. Потым адразу ў хаце быццам усё зьмянілася; доктар выпрастаўся на ўвесь рост, а памагатыя-жанчыны вельмі затурбаваліся. Доктар трымае ў руках нованароджанага малога чалавека. Ён вялікі і цяжкі, вельмі цяжкі. Як потым жанчыны даведаліся з вялікім зьдзіўленьнем, ён важыў дзевяць фунтаў.

І потым зноў укленчыў доктар, зноў зложыў рукі і маліўся. Калі-ж ён зноў устаў, дык ягонае аблічча ўжо ня было паважным, ён быў вясёлы і жыцьцярадасны. Ён зьвярнуўся да парадзіхі, якая ўжо крыху ачуняла і хоць з слабою, але шчасьліваю ўсьмешкаю глядзела на яго. Ён адчыніў свой партфэль і дастаў адтуль якісь сьвяты абразок. — «Вось, глядзіце, мая дарагая — зьвяртаецца ён да маладое маці, — сёньня 19 лістапада, а гэта сьвятая Альжбета. Зрабеце мне прыемнасьць і ахрысьцеце сваё малое іменем Альжбета. Яна сёньня памагла мне і вам, каб не яе заступніцтва, магчыма ўсё так добра ня скончылася-б».

Сваімі спрактыкаванымі рукамі ён хутка пазьбіраў свае бліскучыя прылады ў чорную скрыначку, яшчэ раз глянуў на маці, на дзіця, даў апошнія парады і зьнік у цемры лістападовае ночы. Яшчэ таго-ж вечару па ўсёй вёсцы абегла вестка аб шчасьлівым нараджаньні. І ў кожнай хаце, пераказваючы аб гэтым здарэньні, уканцы абавязкава дадавалі: «Дзевяць фунтаў і будзе називацца Альжбета, і доктар кленчыў перад ложкам і маліўся». (Пераклад з Ст. Конрадсблят)

**Алёіз Шорр.**

# Залатыя думкі з беларускае народнае творчасьці

Хацела-б душа ў рай, да грахі ня пускаюць.
Хваленага сьцеражыся горш, як ганёнага.
Хвалі: дзень вечерам, лён вычасаным, а дзеўку замужам.
Хвалі замор'е на сваёй печы лежучы.
Хітрасьцю ўвесь сьвет пяройдзеш, да назад ня вернешся.
Хлеба солі не шкадуй добраму для добрасьці, а злому для злосьці.
Хлеб соль еш, праўду рэж.
Хораша ў найме, да ня дай Бог мне.
Хоць у латаным, абы ня ў хватаным.
Хочаш прыяцеля згубіць, а ворага нажыць — пазыч грошы.
Хто адважны, той пан важны.
Хто высока лятае, той нізка сядае.
Хто дарогі пытае, той ня блудзіць.
Хто дбае, той і мае.
Хто з Богам, то й Бог з ім.
Хто з кім ня жыве, той з тым ня сварыцца.
Хто зявае, той воду сёрбае.
Хто коні мяняе, у таго часта хамут гуляе.
Хто лжэ, той і крадзе.
Хто многа божыцца, той многа лжэ.
Хто парася ўкраў, у таго ў вушох пішчыць.
Хто працуе, той і мае.
Хто рана скача, той пад вечар плача.

---

### ПЛЁТКІ.

Якаясь жанчына спавядалася аднойчы ў аднаго сьвятога. Яна была вельмі языкатая і шмат каго злосна ачорнівала сваімі плёткамі. Сьвяты загадаў ёй: «За пакуту пайдзі на рынак, купі пеўня і скубі яго йдучы дамоў, а пер'е раскідай па дарозе. На восьмы дзень прыйдзі да мяне зноў». Жанчына слухала тэтага загаду і думала: «Што за нязвычайная пакута?», але выканала яе дакладна згодна з воляй сьвятога і ў назначаны дзень прыйшла да яго. Гэтым разам сьвяты загадаў: «Цяпер маеш выканаць самае важнае! Пайдзі па тых вуліцах, якімі ты йшла, скубучы пеўня, і пазьбірай параскіданае пер'е». Зьдзіўленая жанчына казала сьвятому: «Але-ж гэта немагчыма! Вецер іх ужо даўно паразносіў няма ведама куды!» На гэта адказаў сьвяты: «Вось бачыш; таксама маецца справа з ліхім ачорніваньнем; яно расходзіцца ўсюды, але як яго адклікаць! Як ты зможаш направіць тое зло, якое спрычыніла ліхім языком?»

---

### КАЛЯДЫ.

Зьвініць марозны звонкі дзень,
Сышоў на ніз лясных галінак.
Замітусіўся сумны цень,
Ахутаў цемраю нізіны.

Жанчыны сена для куцьці
Прынесьлі, ў рэшата паклалі.
Каб шчасьце трапіла ў жыцьці,
Дзядоў за стол к сабе зазвалі.

Прышлі нябошчыкі-дзяды,
Прышлі здалёк, садзяцца ў покуць
І сьвята слаўнай Каляды
Адсьвяткаваць з усімі хочуць.

Паважна моляцца бацькі...
Са страў вачэй ня зводзяць дзеці...
Бо хіба можна дзе знайсьці
Такія стравы ўва ўсім сьвеце?

Бягуць дзяўчаты варажыць
Ячменем, воскам, на талерцы,
Каму й за кім належыць жыць?
Хто прыдзе поўначы ў люстэрцы?

А пад вакном ўжо са зьвяздой,
З вэртэпам ходзяць з хаткі ў хатку,
З мядзьведзем, жоравам, казой
Сьвяткуюць родныя Калядкі.

**Алесь Змагар.**

### ВЕР!

Восень спускаецца шэраю хмараю,
Вецер у стрэхі гудзе;
Сум неадчэпнаю цяжкаю мараю
Поўніць дакучлівы дзень.

Прагна імкнецца душа супакоіцца,
Рвецца з кайданаў, з багны.
Ды на чужыне чужая ваколіца,
Людзі — чужыя сыны.

Тут не пачуць ні спагады слоў ласкавых,
Ні цяплыні, ні пяшчот.
Зоркі... і тыя ня йскрацца нам краскамі,
Ня усьміхнецца завод.

Ногі крывавяцца сьцежкай жабрачаю;
У думках: гаротны наш Край.
Маткі няшчасныя бавяцца плачамі,
Ў сэрцы... нястрымны адчай.

Доўга народ наш пакутаваў у роспачы,
Рваўся з багны, з кайданоў.
Гойсалі каты крывавыя поначы,
Нішчылі лепшых сыноў.

Ды ўжо нядоўга мы будзем закутыя.
Вер! І надыйдзе пара:
Дымам разьвеюцца ворагі лютыя,
Сьветлая ўзыйдзе зара.

**Алесь Змагар.**

# Песьні ўзыходжаньня

ПСАЛЬМ 130.

Давідавы.

Ня пышалася, Госпадзе, сэрца маё,
ня ўзьнімаліся з пыхаю й вочы;
і да рэчаў вялікіх і недасягальных
мкнуцца — ведаеш — я не ахвочы.
І я душу сваю усьцішаў, супакойваў,
як дзіцё, як маленькага брата;
і душа мая стала ўва мне, як дзіця,
што ад матчыных грудзяў аднята.
Спадзявайся-ж на Госпада-Бога, Ізраіль,
і сягоньня й навекі — дажджэшся і раю.

ПСАЛЬМ 131.

Прыпомні, о Госпадзе-Божа, Давіда,
прыпомні ягоную скруху,
як ён кляўся Госпаду яўна і ў духу,
Якубаву Сільнаму даў, як зарок:
«О, я не ўвайду пад страху свайго дому,
на ложак я свой ня прылягу;
ня дам сну вачам сваім я, а павекам
ня дам ні хвіліны дрымоты,
пакуль не знайду жытла Госпада-Богу,
Якубаву Сільнаму — месца».
Мы чулі аб ім у прасторах Ефрата,
знайшлі на палёх Іарыму.
Хадзем у сялібу Яго, сукланіцца
прад стопаў Ягоных падножжам.
Стань, Госпадзе, ў месцы Твайго супакою,
Ты — й скінія моцы Тваёй.
Тваe сьвятары ўсе апранупцца праўдай,
сьвятыя Тваe ўзьвесяляцца
І дзеля Давіда, раба Твайго дзеля,
памазанцу, Божа, Твайму не адмоў.
Гаспод кляўся вернай прысягай Давіду
і Ён ад яе не адступіць:
«Таго, хто ад плоду твайго ўлоньня прыйдзе,
на твой на пасад пасаджу Я, —
калі твае дзеці Майго запавету
й аб'яваў Маіх датрымаюць,
каторым Я іх ад цяпер навучацьму,
дык дзеці іх будуць таксама навекі
сядзець на тваім на пасадзе».
Бо Госпад абраў для сябе на сялібу
Сыён, пажадаўшы, і мовіў:
«Вось месца Майго супакою навекі,
тут буду Я жыць, бо ўпадобаў.
Я ежу яго багаславіці буду,
і ўбогіх ягоных насычу.
Ягоных сьвяшчэньнікаў Я апранаці
заўжды буду ў рызы спасеньня,
сьвятыя яго ўзвесяляцца.
І там Я ўзрашчу рог Давіду, і сьветач
пастаўлю Майму памазанцу.
Яго варагоў Я у ганьбу акрыю,
на ім-жа зьзяць будзе карона».

ПСАЛЬМ 132.

Давідавы.

Як добра, як міла братом жыць супольна!
То — быццам каштоўны алей, што павольна
з валос галавы ў бараду Аарону
сьцякае і зьзяе каменьнем кароны,
а потым сьцякае духмяным струменем
па краю ягоных сьвяточных адзеньняў;
то — нібы Ярмонскія срэбныя росы,
што гораў Сыёнскіх расквечваюць косы,
бо там пасылае Гаспод блаславеньне,
жыцьцё на век вечны і людзям збаўленьне.

ПСАЛЬМ 133.

Госпада слаўце, ўсе Божыя дзеці,
кожную ноч у сьвятыню хадзеце,
вашыя рукі ўзьнiміце к сьвятыні —
Госпада слаўце і ў слове, і ў чыне.
Той, Хто прычынаю сьвету стварэньня, —
Госпад з Сыёну — пашле блаславеньне.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## УСХОДНЯЕ БАГАСЛУЖЕНЬНЯ Ў БАЗЫЛІЦЫ СЬВ. ПЯТРА.

Сёлетні сьв. Год бачыў нямала нязвычайных рэчаў. Да іх трэба залічыць яшчэ адно: Службу Божую ў бізантыйскім абрадзе, якая адбылася дня 26-XI у найбольш урачысты спосаб у базыліцы сьв. Пятра ў Рыме. Нагодаю да гэтае урачыстасьці былі 1200 ўгодкі сьмерці сьв. Івана Дамаскіна, апошняга з вялікіх багасловаў Усходу. Дзейны ўдзел у Службе Божай прыймаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII.

Падобна ўрачыста адпраўлялася сьв. Літургія ў бізантыйскім абрадзе з удзелам Сьвяцейшага Айца ўжо два разы: першы раз у 1908 г., калі сьвяткавалася 1500 годзьдзе сьмерці сьв. Івана Златавуснага і другі раз у 1925 г. з нагоды 1600 годзьдзя Нікейскага Сабору.

Гэтым разам урачыстасьці ў базыліцы сьв. Пятра бяз сумніву перавышалі папярэднія сваею

веліччу. Сёлета Сьвяцейшы Айцец прыймаў дзейны ўдзел у сьв. Літургіі, багаслаўляючы вернікаў і адмаўляючы некаторыя малітвы. Галоўным служачым быў сьвяцейшы Максім IV Саіг патрыярх Антыохіі для Мэльхітаў. З ім саслужыла 15 архібіскупаў і біскупаў розных нацыянальнасьцяў, 5 архімандрытаў, шмат сьвятароў і некалькі дыяканаў і субдыяканаў.

Веліч сьвятыні, глыбокія містычныя літургічныя сьпевы — усё гэта напаўняла душы прысутных вернікаў глыбокай малітвай, верай, надзеяй і любоўю.

Сёньня, калі бязбожныя камуністычныя ўлады прасьледуюць хрысьціянства, Апостальскі Рымскі Пасад не забываецца маліцца за тых, хто цярпіць за веру. Адначасна ўвесь сьвет можа пераканацца, як дарагою ёсьць для Апостальскага Пасаду спадчына ўсіх усходніх абрадаў у еднасьці веры.

Рымскія Патрыярхі ўжо ня раз падчырквалі значэньне і роўнацэннасьць усіх усходніх абрадаў. Сьвяцейшы Айцец Леў XIII у энцыкліцы «Orientalium dignitas» казаў: «У той час, калі чэсьцінайдастайнейшая страдаўнасьць абрадаў, ушляхотнюючая іх, ёсьць вялікай славай для ўсяе Царквы і адначасна абвяшчае Боскую еднасьць каталіцкае веры... Нічога так не паказвае ў лепшым сьвятлае каталіцкасьці Божае Царквы, як асаблівая веліч розных па форме абрадаў, якія адпраўляюцца ў мовах поўных павагі дзеля іхняе старадаўнасьці, асьвячанае іхным ужываньнем Апостальскімі вучнямі і Айцамі Царквы». Сьвяцейшы Айцец Бэнэдыкт XV у сваім дэкрэце «Pro Ecclesia Orientali» казаў: «Царква Ісуса Хрыста, таму што Яна ня ёсьць ані лацінскай, ані грэцкай, ані славянскай — але каталіцкай, ня робіць ніякае розьніцы паміж сваімі дзяцьмі; ці яны грэкі, ці лацінскія народы, ці славяне, ці іншыя этнічныя групы — усе яны займаюць аднолькавае мейсца ў вачох сьв. Апостальскае Сталіцы».

Прысутныя на ўрачыстай Літургіі ў базыліцы сьв. Пятра, сярод якіх былі і беларусы, маглі пераканацца, што словы Рымскіх Патрыярхаў былі выявам Іхных найшчырэйшых перакананьняў.

**а. Ч. С.**

## ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ЗАКОНЬНІКАЎ.

Ад 26 лістапада да 3 сьнежня г.г. адбываўся ў Рыме першы Міжнародны Кангрэс Законьнікаў. Як ведама, у Каталіцкай Царкве маюць вялікае значэньне розныя манашыя Законы і Згуртаваньні, сярод якіх з сваімі асобнымі правіламі налічваецца каля 150 мужчынскіх і больш чым 200 жаночых. (Разам яны маюць каля 1.200.000 сяброў). Мэтай кожнага манашага Закону ёсьць успамагаць сьвятасьць сваіх сяброў шляхам супольнага жыцьця, захаваньня дасканалае чыстасьці, выračэньня ад асабістага багацьця і падпарадкаваньня свае волі сваім духоўным уладам. Ня гледзячы на гэтую супольную мэту, кожны з манашых Законаў мае свае асаблівасьці і свае заданьні ў жыцьці Царквы. Адны з Законаў займаюцца выключна місіямі, іншыя працай сярод моладзі, яшчэ іншыя кіруюць школамі, шпіталямі, ці прытулкамі. На чале кожнага Закону стаіць Гэнэрал Закону, выбіраны на пэўны час, або і на ўсё жыцьцё. Усе гэнэралы падпарадкоўваюцца Сьвяцейшаму Айцу, каторы кіруе ўсімі законьнікамі праз пасрэдніцтва сьв. Кангрэгацыі Законьнікаў. Пад наглядам гэтае Кангрэгацыі і адбываўся названы тут Кангрэс.

Кожны, хто быў прысутны на Кангрэсе, або чытаў дакладныя ягө справаздачы, зьвярнуў увагу на кліч, пад якім вяліся працы Кангрэсу: **Датарнаваць традыцыйнае жыцьцё Законаў і іхнюю дзейнасьць да сучасных абставінаў і вымогаў.** На гэты кліч зьвярнуў увагу Сьвяцейшы Айцец Пій XII у сваім прывітальным лісьце і кардынал Піяцца пры адчыненьні Кангрэсу, аб гэтым вымоўна сьведчыць сыстэматычна апрацаваная і праведзеная тыднёвая праца Кангрэсу.

Трэба зауважыць, што Кангрэс ня быў пакліканы беспасрэдна да рэфармаваньня законнага жыцьця, але для разважаньня сучасных патрэбаў і да прыняцьця прапановаў, якія пасьля могуць быць адобраны і пацьверджаны Апостальскім Пасадам.

Лішнім было-б гаварыць шмат аб тым, што ў Кангрэсе ўдзельнічалі найвыдатнейшыя багасловы, вучоныя і кіраўнікі Законаў. Шмат добрага прынясе ён для ўсяго людзтва і можна спадзявацца, што на гэтыя вынікі доўга чакаць ня прыдзецца.

## КРЫЖОВЫ ПАХОД ПРАЗ РАДЫЁ.

Ведамы італьянскі казнадзей а. Лёмбарді ад 1 да 25 сьнежня амаль кожнага дня вечарам гаворыць праз радыё да ўсіх італьянцаў казаньні, якія маюць стацца крыжовым паходам сярод вернікаў для аднаўленьня іхняга рэлігійнага жыцьця. Усе казаньні а. Лёмбарді дзеляцца на тры трупы. Першая мае за праводную думку: Да новага сьвету; другая — Новы сьвет; і трэцяя — Хто жадае супрацоўнічаць з новым сьветам. Да арганізацыі гэтых казаньняў шмат прычынілася Італьянская Каталіцкая Акцыя і розныя радыёстанцыі.

Гэта сапраўды сучасны мэтад жыцьцядайнага апостальства.

## ПАТРОНКА ЭМІГРАЦЫІ.

Сьвяцейшы Айцец Пій XII асобным лістом абвесьціў сьв. Францішку-Ксавэру Кобріні нябесную патронкаю для ўсіх эмігрантаў. Сьв. Францішка была родам італьянка, потым выэміграва-

ла ў Амерыку і стаўшы манахіняю, апекавалася і старэйшымі эмігрантамі, і моладзьдзю, нясучы ім і матэрыяльную і духовую помач, ды дбаючы аб захаваньні веры.

### ЗГІНУЛА 80 МІСІЯНАРОЎ.

Ватыканскае радыё паведамляе, што ў Карэі за час сучасных ваенных падзеяў згінула 80 каталіцкіх місіянароў.

### ПРЫСВАЕНЬНЕ ПАТРЫЯРШАГА ТЫТУЛУ.

Амэрыканскія газэты былі падалі вестку, што расейскі праваслаўны мітрапаліт Іосіф Клімовіч абраны якімісь царкоўнымі лідарамі на праваслаўнага расейскага патрыярха ў Амэрыцы. Расейская праваслаўная прэса выясьняе, што ўспомнены Іосіф Клімовіч нават нікол і ня быў сьвячаны ў япіскапа, а быў толькі пратаіярэям і служыў у расейскім прыходзе ў Спрынгфільдзе (штат Массачусэт).

Варта дадаць да гэта весткі, што гэта ня першы выпадак, бо ў Нью Ёрку жыве 70-гадовы расейскі манах Іліодор Труфанов «выбраны і пастаўлены патрыярхам» 2-IV-1921 г. у Сталінградзе. І гэты «усерасейскі патрыярх» нядаўна ўрачыста сьвяткаваў свой юбілей.

Савецкі маскоўскі патрыярх не без канкурэнтаў.

### НОВАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЎСТАНОВА Ў ФІНЛЯНДЫІ.

Нядаўна айцы дамінікане адчынілі ў Гэльсінках Інстытут Каталіцкіх Студыяў, які мае на мэце разьвіваць культурныя і літаратурныя адносіны між Фінляндыяю і іншымі краінамі.

### ЗАКРЫЦЬЦЁ СЬВ. ДЗЬВЕРАЎ.

Афіцыяльна закрыцьцё цяперашняга сьв. Году адбудзецца 24 сьнежаня а гадз. 10,30. У гэты час Сьвяцейшы Айцец Пій XII зачыніць сьв. Дзьверы ў базыліцы сьв. Пятра. Адначасна вызначаныя кардыналы зачыняць сьв. Дзьверы ў іншых 3-х рымскіх базыліках.

### АСУДЖАНЬНЕ.

У Югаславіі духоўныя ўлады нядаўна выклялі трох каталіцкіх сьвятароў, якія заснавалі арганізацыю для супрацоўніцтва з камуністычным «Народным фронтам».

### СУД НАД КАТАЛІЦКІМІ ДУХОЎНЫМІ Ў ПРАЗЕ.

Камуністычны чэхаславацкі ўрад сёлета 5 сьнежня закончыў у пражскай турме Панкрац суд над 9 каталіцкімі духоўнымі на чале з Я. Эксц. Станіславам Зэля вікарным біск. з Оломунца. Паводля камуністычнае сыстэмы суд быў падрыхтаваны так, што ўсе абвінавачаныя «прызнаваліся» ўва ўсіх закіданых ім правінах: шпіянажу, сабатажу і інш. Уканцы засудзілі ўсіх падсудных на доўгія кары ад 18 гадоў і да дасьмяротнае турмы. Гэты суд і засуд выклікаў самазразумелае абурэньне і пратэст так у Ватыкане, як і ўва ўсім каталіцкім сьвеце.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА НА ЭМІГРАЦЫІ.

Сёлета на эміграцыі агулам зьявілася 28 розных газэт і часапісаў але з вельмі няроўнаю пэрыядычнасьцю, бо толькі 4 з іх выходзілі больш менш штомесяца, а 7 выйшла толькі па адным нумары; 8 пачало выходзіць і 4 перастала. Выходзілі 3 часапісы рэлігійнага зьместу: 2 каталіцкія і 1 праваслаўны.

### БЭЛЬГІЯ.

#### Арганізацыя прыходу БАПЦ

Ад кастрычніка г.г. у Лювэне знаймодзіцца новавысьвячаны праваслаўны сьвятар а. Аўгень Смаршчок, які побач сваіх студыяў займаецца арганізацыяй душпастырства праваслаўных беларусаў у Бэльгіі.

#### Вечар сьв. Мікааля.

Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне вечарам 6-XII азначыла традыцыйны дзень сьв. Мікалая. Калі ўсе беларускія студэнты былі сабраныя ў сьвятліцы Студэнцкага Дому, туды зьявіўся «сьв. Мікалай» з дарункамі і пакінуў па сабе шмат сьмеху і вясёлых успамінаў.

Наступнага дня Міжнароднае кола Лювэнскага Унівэрсытэту ладзіла вечар сьв. Мікалая для студэнтаў чужынцоў. На ім удзельнічала 28 розных нацыянальных групаў, між імі і беларусы. Тут замест дарункаў кожная нацыянальная група дарыла іншых паказам сваіх найлепшых народных песьняў, музыкі і скокаў. Зразумела, што ў гэтым выступе побач мэлёдыйных беларускіх народных песьняў не абышлося без «Лявоніхі».

## Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

З нагоды 30-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня а. Аугень адслужыў 25-XI у Лювэне паніхіду за паўшых змагароў. А папалудні таго-ж дня ў доме Беларускіх Студэнтаў была наладжаная жалобная акадэмія з адпаведным рэфэратам і сьпевам жаўнерскіх ды патрыятычных песьняў.

## Канцэрт беларускае народнае песьні.

Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне дня 18-XII дало канцэрт на фоне Лювэнскага Унівэрсытэту. У праграму канцэрту ўвайходзілі: рэлігійныя і народныя беларускія песьні, беларускія народныя танцы, творы сучасных беларускіх кампазытараў для піяно, романсы і солёвыя нумары.

Хоць лювэнскі студэнцкі ансамбль яшчэ вельмі малады, але дзякуючы вялікаму ўкладу працы кампазытара М. Равенскага, усе нумары былі выкананы вельмі ўдала. Народныя танцы: Крыжачок і Мяцеліца, а так-жа солёвы сьпеў «Маршу партызанаў» у выкананьні Ю. Сенькоўскага трэба было паўтараць на незмаўкаючыя воплескі і дамаганьне публікі.

Гэты кантэрт даў магчымасьць прысутным пабачыць дробную частку багацьця беларускіх народных мэлёдыяў.

Пасьля канцэрту віцэрэктар Лювэнскага Унівэрсытэту прывітаў выканаўцаў і паведаміў, што беларуская студэнцкая група запрошаная выступіць з тэй-жа праграмай у прыгранічным бэльгійскім горадзе Арлён.

## З.Ш.А.

## На арганізацыйнай ніве.

У меру прыезду большае колькасьці беларускае эміграцыі ў З.Ш.А. узрастае лік розных беларускіх арганізацыяў у гэтай краіне. І так летась паўсталі: Задзіночаньне Беларусаў а Амэрыцы (ЗБА) і Задзіночаны Беларуска-Амэрыканскі Камітэт (ЗБАК). Сёлета 24 верасьня заснавалася Аб'еднаньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (АБМА), а 15 кастрычніка ў Саўт Рывэр: Аб'еднаньне Праваслаўных Беларусаў у ЗША, да таго сёлета зактывізавала сваю дзейнасьць найстарэйшая беларуская арганізацыя ў ЗША Беларуская Нацыянальная Рада, сёлета пераехала ў ЗША управа беларускага Літаратурнага Згуртаваньня «Шыпшына». Аб заснаваньне Беларускае Каталіцкае Арганізацыі мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары.

## Між Беларускіх студэнтаў.

У радох вялікае колькасьці беларускае эміграцыі, якая апошнім часам прыехала ў Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі знайшлося нямала беларускіх студэнтаў. Каб умагчымі́ць сабе даканчэньне студыяў на новым мейсцы жыхарства і ў нота былі зьліквідаваныя ў выніку выезду студэнўтварылі ў Нью Ёрку сваю арганізацыю, якая налічвае 50 сяброў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

## Ліквідацыя БСЗ у Мюнхэне і Марбургу.

Калісь рухавыя цэнтры Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне і Марбургу сёлета былі зьліквідаваныя ў выніку выезду студэнтаў у іншыя краіны.

## ФРАНЦЫЯ.

## 30-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

З нагоды 30-ых угодкаў Слуцкага Паўстыньня дня 26 лістапада ў беларускай капліцы ў Парыжу пасьля Службы Божае была адслужана паніхіда за паўшых змагароў, а папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу адбылася сходка сяброў АБРФ, на якой быў прачытаны даклад аб Слуцкім Паўстаньні. Наступна двох быўшых слуцкіх паўстанцаў расказалі прысутным аб некаторых цікавых мамэнтах паўстаньня. Уканцы была парушана справа масавага вынішчэньня бальшавікамі беларускага народу і прынята пратэстацыйная рэзалюцыя заадрасаваная да Аб'еднаных Нацыяў. На заканчэньне прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

## У Адзьдзеле Крэзо.

Беларусы з Крэзо і ваколіцы ўрачыста адзначылі 30-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Урачыстасьць адбылася ў салі мяйсцовае мэрыі. Вельмі зьмястоўны рэфэрат аб Слуцкім Паўстаньні і яго значэньні прачытаў Аўг. Трусаў. Памяць загінуўшых змагароў ушанавана хвілінаю моўчанкі. Наступна сказаў прывітальнае слова галава мяйсцовага украінскага таварыства ваякаў арміі УНР.

На заканчэньне было прадэклямвана некалькі врешаў і адсьпявана пару беларускіх патрыятычных песьняў.

---

## З Ь М Е С Т:




Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.